# Рэгіянальная газета.

Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

13 сакавіка 2020 года №11 (1298)

18+


# Актывісты ў Маладзечне прапануюць не адпускаць шары на выпускным




старонка 5

Графіка Зоі КРУЦКАЙ.


МОЛОДЕЧНОМЕБЕЛЬ
ЗАКРЫТОЕ АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО

ЗАО «Молодечномебель» предлагает «Новинку 2020 года» – спальню «Лорена»

Проводим финальную распродажу коллекций прошлого года

Приглашаем за покупками по адресу: г. Молодечно, ул. Либаво-Роменская, 83а и ул. Металлистов, 1

Телефоны: (8-044) 7085118 А1, (8-044) 7505027 МТС

УНП 600203065

алми СЕТЬ МАГАЗИНОВ

Сеть магазинов «АЛМИ» приглашает на работу в Молодечно

- ТОВАРОВЕДА
- КАССИРА
- ФОРМОВЩИКА ТЕСТА
- КУХОННОГО РАБОЧЕГО

**СОТРУДНИКАМ:** достойный уровень зарплаты, доплата за стаж; расширенный соц. пакет; предварительное обучение и стажировка

Отдел персонала: (8-017) 308-16-02, (8-044) 755-97-72

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

СКОРО ОТКРЫТИЕ!!!

ЗАО «Доброном» УНП 191178504

Доброном | КОПЕЕЧКА

Сеть магазинов «Доброном» и дискаунтеров «Копеечка»

В СВЯЗИ С ОТКРЫТИЕМ НОВОГО МАГАЗИНА по адресу: г.п. Радошковичи, ул. Советская, 1

приглашает на постоянную РАБОТУ

- ДИРЕКТОРА МАГАЗИНА з/п от 1200 до 1400 руб.
- ЗАВЕДУЮЩИХ ОТДЕЛОМ з/п от 800 до 900 руб.
- СТАРШИХ КАССИРОВ з/п от 600 до 850 руб.
- КОНТРОЛЁРОВ-КАССИРОВ з/п от 550 до 800 руб.
- ГРУЗЧИКОВ з/п от 550 до 800 руб.
- УБОРЩИКОВ СЛУЖЕБНЫХ ПОМЕЩЕНИЙ з/п от 400 до 550 руб.

Мы предлагаем ВАМ:
бесплатное обучение для кандидатов без опыта работы • стабильность компании и уверенность в завтрашнем дне • соц. пакет и высокую мотивацию труда • карьерный рост • всем сотрудникам нашей компании предоставляется дисконтная карта с 6% скидкой в сети магазинов «Доброном»

Контактные телефоны: 7470; (8-029) 677-18-23


**Каранавірус:** як абараніцца, дзе здаць аналіз старонка 21

**У Вілейцы з’явіўся кантэйнер для збору пратэрмінаваных лекаў** старонка 19

**Калі ў Маладзечне адчыняць будынак Цэнтральнай раённай бібліятэкі?** старонка 2


ISSN 1991–7155

9 771991 715006 20011


Адсканyйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# Калі адчыняць будынак Цэнтральнай раённай бібліятэкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У 2021 годзе будынак Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі, што на вуліцы Талстога ў Маладзечне, плануюць здаць у эксплуатацыю.**



Так выглядала бібліятэка звонку ў 1963 годзе (на фота злева).

Фота з архіва Уладзіміра САДОЎСКАГА.

Дах аднавілі. Плануюць, што будынак стане больш зручным для людзей з інваліднасцю, улічаць усе сучасныя патрабаванні да тэхнікі бяспекі, паведамляе сталічнае тэлебачанне. Заказчыкам па капітальным рамонце будынка з'яўляецца Упраўленне капітальнага будаўніцтва Маладзечанскага раёна.

### Чаму будынак цэнтральнай бібліятэкі не працуе ад 2014 года

Нагадаем, што ў 2014 годзе тут абвалілася частка столі. У нумары 22 ад 30 мая 2014 года мы пісалі, што здарэнне адбылося ў чатыры гадзіны раніцы 27 мая. Ніхто не пацярпеў. У такі ранні час у бібліятэцы знаходзіўся толькі ахоўнік. Ён быў у іншым крыле будынка на першым паверсе.

> Абрынулася апорная бэлька і перакрыцце на плошчы каля 150 квадратных метраў.

На той час памяшканне ўжо не выкарыстоўвалася і чакала рамонту. А раней тут была чытальная зала.

Ад гэтага часу і да сёння функцыі цэнтральнай бібліятэкі выконвае бібліятэка сямейнага чытання «Верасок», што на Вялікім Гасцінцы.

### Крыху з гісторыі бібліятэкі

Будынак бібліятэкі на Талстога з'явіўся ў Маладзечне ў 1960 годзе. Як паведамляюць у Беларускім саюзе архітэктараў, гэта першы самастойна рэалізаваны праект беларускага архітэктара **Вальмена Аладава**. Бібліятэку пабудавалі без запланаванага аўтарам порціка – крытай галерэі з калонамі. Гэты элемент палічылі лішнім.

Мы звязаліся з Вальменам Мікалаевічам. Пра тое, што ў будынку бібліятэкі абвалілася столь і цяпер ён зачынены, архітэктар не ведаў і вельмі здзівіўся. Ён паабяцаў расказаць аб працы над будынкам у бліжэйшых нумарах «РГ».

Будавалася бібліятэка як абласная, а адчынілася як гарадская, бо ў 1960 годзе Маладзечанскую вобласць ліквідавалі. У канцы 1960 года ўрачыста адчынілі будынак. 2 студзеня 1961 года тут сустрэлі першых чытачоў.

Спачатку бібліятэка насіла імя Надзеі Крупскай. А ад 1992 года ёй прысвоілі імя Максіма Багдановіча.

### Чытач: крыўдна, што такі будынак у цэнтры горада пустуе шосты год

Маладзечанец **Алег Шчукін** цяпер пенсіянер. У пачатку 1950-х ён прыехаў у Маладзечна з Грознага. Тут пазнаёміўся з **Міколам Ермаловічам**. А той захапіў яго беларускай літаратурай і культурай. Разам з Ермаловічам Шчукін працаваў у настаўніцкім інстытуце – выкладаў рускую літаратуру.

– У бібліятэку я запісаўся ці не адразу, як прыехаў у Маладзечна з Грознага пасля заканчэння філфака. Вабіла Беларусь, якая тады мела славу партызанскай краіны, – прыгадвае Алег Васільевіч.

Кажа, што адразу бібліятэка месцілася ў будынку каля аўтавакзала, называлася чыгуначнай. І добра памятае, як будавалі новую. Прыгадвае прозвішчы супрацоўнікаў **Грозная**, **Яновіч**, **Кашкан**, **Туркова**, **Вялікая**, **Шустарман**, **Ліпіхіна**, **Абраменка**.

– У бібліятэку я хадзіў вельмі часта. А як жа інакш выкладчыку падрыхтавацца да лекцый. Тым больш, тагачасныя студэнты, якія рыхтаваліся стаць настаўнікамі рускай і беларускай мовы і літаратуры, былі дапытлівыя, з вялікай прагай да ведаў. Шмат працаваў у чытальнай зале. Часта заходзіў і ў новы будынак. Новую бібліятэку пабудавалі недалёка ад гаркама партыі, дзе я працаваў у 1960-х, – працягвае суразмоўца.



А так знутры ў 2014.

Фота з сайта МНС.

Па словах Алега Васільевіча, бібліятэка іграла вялікую ролю ў жыцці маладзечанцаў.

У новым будынку, што цяпер стаіць зачыненым, было шмат месца. Заўсёды была запатрабаваная канферэнц-зала, ладзіліся літаратурныя гасцёўні, запрашалі творцаў, праводзілі выставы работ маладзечанскіх мастакоў.

У чытальную залу людзі ішлі, каб пагартаць газеты і часопісы, завочнікі рыхтаваліся да заняткаў. На абанеменце бралі кнігі. Былі папулярнымі беларускія пісьменнікі **Іван Мележ**, **Уладзімір Караткевіч**, **Іван Шамякін**, **Янка Маўр**, **Міхась Лынькоў**.

Тут жа быў добры бібліяграфічны аддзел. Па ўспамінах Алега Васільевіча, бібліёграфам працавала **Ала Гатоўская**. Яна сур'ёзна займалася краязнаўчай працай. Вяла картатэку, куды заносіла звесткі пра маладзечанскіх паэтаў і іх творы.

– Вельмі крыўдна, што будынак у самым цэнтры Маладзечна, які адыгрываў такую вялізную ролю ў культурным жыцці горада, ужо некалькі гадоў не могуць адрамантаваць і адчыніць. Гэта бібліятэка гораду вельмі патрэбная, – падсумаваў паэт і педагог Алег Шчукін.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

За насеннем, саджанцамі і іншымі таварамі запрашаюць на вясновыя кірмашы.

# Калі пачнуцца вясновыя кірмашы

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВІЛЕЙКА**

Хутка пачынаецца сезон вясновых кірмашоў. Ужо вядомыя дакладныя даты іх правядзення ў Маладзечне і Вілейцы.

### Кірмашы ў Маладзечне

Кірмашы ў Маладзечне будуць штотыднёва, па суботах і нядзелях, да 3 мая ўключна.

25 красавіка, у суботу, ад 9:00 да 15:00, у горадзе зладзяць вясновы рэгіянальны кірмаш. Будуць удзельнічаць Вілейскі, Валожынскі, Лагойскі, Маладзечанскі, Мядзельскі раёны.

### Кірмашы ў Вілейцы

У Вілейцы кірмашы зладзяць на цэнтральнай плошчы. Даты наступныя – 21 і 28 сакавіка, 4, 11, 18 і 25 красавіка, 2 мая.

**Будуць удзельнічаць не толькі арганізацыі і прадпрымальнікі з Вілейшчыны.**

Прыедуць гандляры з Маладзечанскага, Лагойскага, Валожынскага, Мядзельскага раёнаў.

На кірмашах можна будзе набыць сельгаспрадукты, харчовыя тавары, насенне, саджанцы, прылады для сада і агарода, вырабы рамеснікаў, паведамляюць у райвыканкамах.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладыя повары рэгіёна ўдзельнічаюць у «КулінарШоу-2020»

**Адкрытыя выступленні беларускіх повараў на фестывалі кулінарнага мастацтва «КулінарШоу-2020» пройдуць ад 7 да 9 красавіка на пляцоўцы 29-й міжнароднай выставы HoReCa, паведамляюць арганізатары.**

**ВІЛЕЙКА**
**АШМЯНЫ**
**МАЛАДЗЕЧНА**
**СМАРГОНЬ**

У фестывалі ўдзельнічаюць повары і навучэнцы профільных навучальных устаноў Беларусі. Ад 2 да 16 сакавіка на сайце фестывалю horecaexpo.by праходзіць галасаванне за самыя смачныя стравы фестывалю, па выніках якога вызначаць 25-га кандыдата. Першых 24 удзельнікаў адбярэ экспертная камісія.

Усе 25 кандыдатаў правядуць аўтарскія майстар-класы па прыгатаванні заяўленых страў для гасцей і наведнікаў выставы HoReCa. RetailTech 2020.

У галасаванні прадстаўленыя стравы навучэнцаў профільных устаноў з Вілейкі, Ашмянаў, Маладзечна і Смаргоні.

У намінацыі «Сучасная беларуская кухня. Суп» удзельнічае страва «Юшка з пеўня» ад **Антаніны Баяркінай** з Ашмянскага дзяржаўнага аграрна-эканамічнага каледжа.

У намінацыі «Сучасная беларуская кухня. Гарачае» ёсць некалькі страў з рэгіёна:

• сырныя блінчыкі з грыбамі ад **Таццяны Біслюк**, майстра вытворчага навучання Смаргонскага дзяржаўнага прафесійнага політэхнічнага ліцэя;

• цыбрыкі, фаршыраваныя грыбамі і цыбуляй ад **Артура Ляўвуціна** з Маладзечанскага дзяржкаледжа;

• страва «Судак – каледжа смак» ад **Аляксандры Жук** і **Эльвіры Дзятковіч** з Вілейскага дзяржаўнага каледжа;

• бужаніна шпігаваная ад **Антаніны Баяркінай** з Ашмянскага дзяржаўнага аграрна-эканамічнага каледжа.

А яшчэ ад Антаніны Баяркінай з Ашмянаў ёсць арахіс з узбітымі вяршкамі ці марожаным у намінацыі «Сучасная беларуская кухня. Дэсерты».

Да ўсіх страў ёсць рэцэпты прыгатавання.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота horecaexpo.by

Так выглядаюць цыбрыкі з Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.03 | 12.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.2311 | **2.3141** |
| Еўра | 2.4898 | **2.6214** |
| Злоты, 10 | 5.7901 | **6.0624** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3812 | **3.2363** |
| Грыўня, 100 | 8.9805 | **9.0157** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **4.03** | **11.03** |
| Еўра | 2.4200/2.5100 | **2.5700/2.6700** |
| Долар ЗША | 2.1900/2.2700 | **2.2700/2.3700** |
| **ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)** | | |
| **ПРАДУКТЫ** | **4.03** | **11.03** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,88 | **22,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,87 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **5,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **15,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,90 | **6,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **4,30** |
| Перац, 1 кг | 7,80 | **6,50** |
| Радыс, пучок | – | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **3,20** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **8,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **4,80** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 10,00 | **12,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,80** |
| Чарнаслiў б/к, 1 кг | 5,50 | **6,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | **1,85** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ МИНСКОГО ОТДЕЛЕНИЯ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ

ПЕРЕВОДЫ

• Английский • Немецкий • Португальский • Польский • Греческий
• Французский • Итальянский • Литовский • Украинский

Личной и коммерческой документации, текстов любой направленности, в том числе и для последующего нотариального заверения.

ОЦЕНКА, ЭКСПЕРТИЗА

г. Молодечно, ул. Буховщина, 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: (+375 176) 55-46-64, 55-46-65, 55-46-67
e-mail: tppm-mo@tppm.by, сайт: www.tppm.by

УНП 100144204

## Аўтамабіль наехаў на пенсіянерку. ДАІ шукае сведкаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

17 лютага каля 19:30 невядомы кіроўца на неўстаноўленым аўто наехаў на 72-гадовую пенсіянерку.

Кіроўца ехаў па вуліцы Скарыны з боку Вялікага Гасцінца. Пасля ён павярнуў налева і каля дома №17 наехаў на 72-гадовую маладзечанку. Жанчына пераходзіла праезную частку дарогі па нерэгуляваным пешаходным пераходзе злева направа.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Т. Дудко**, 1-15 або па тэлефонах: **(8-0176) 74-53-46, 74-53-43** альбо **102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына тушыў ежу на пліце і пацярпеў ад агню

**МАЛАДЗЕЧНА**

8 сакавіка пасля 18:00 выратавальнікам паведамілі пра задымленне ў кватэры па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне.

Калі да месца выкліку прыбылі падраздзяленні МНС, высветлілася, што ў кватэры на першым паверсе загарэлася ежа на газавай пліце. Гаспадар, які быў у кватэры адзін, самастойна патушыў яе.

У выніку пасля агляду брыгадай «хуткай дапамогі» мужчыну шпіталізавалі ў раённую бальніцу з папярэднім дыягназам «атручэнне прадуктамі гарэння». Агонь пашкодзіў кухонны посуд. Прычына здарэння высвятляецца.

Меркаваная версія – парушэнне правілаў эксплуатацыі газавых прыбораў і агрэгатаў, а менавіта, пакінутая без нагляду ежа на пліце.

**Паводле сайта МНС.**

## Здарыўся пажар на могілках

**СМАРГОНЬ**

Пра пажар на гарадскіх могілках, што ў Смаргоні на вуліцы Камінскага, выратавальнікам паведамілі каля 18:15.

У выніку пажару агонь пашкодзіў рытуальную маёмасць і крыж на адной з магіл, пастаўлены сёлета ў студзені. Прычынай пажару стала лампадка.

**Паводле сайта МНС.**

## П'яны бяспраўнік урэзаўся ў аўто

**АСТРАВЕЦ**

8 сакавіка каля 21:35 38-гадовы мужчына за рулём аўтамабіля «Пратон» паблізу Астраўца не выканаў дыстанцыю і стукнуўся ў аўтамабіль «Фольксваген», які рухаўся ў спадарожным кірунку.

У кіроўцы «Пратону» не было правоў, і ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

У выніку ДТЗ траўмы атрымаў пасажыр аўтамабіля «Пратон». Мужчыну з пераломам рукі і іншымі ранамі шпіталізавалі.

Прычыны і іншыя абставіны ДТЗ будуць вызначаныя ў ходзе праверкі.

**Паводле ДАІ Гродна.**

● **УВАГА, ВЫШУК!**

## 35 год таму маладзечанец паехаў у Смаргонскі раён і знік

**МАЛАДЗЕЧНА**
**СМАРГОНЬ**

### Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага Анатоля Піліпавіча Мелюка.



Ён нарадзіўся 18 ліпеня 1948 года ў вёсцы Шыкава Маладзечанскага раёна. Жыў у вёсцы Шыкава на Маладзечаншчыне.

Мужчына паехаў у вёску Ракаўцы Смаргонскага раёна. Ад 1985 года ён не выходзіць на сувязь са сваякамі. Усе гэтыя гады невядомае яго месцазнаходжанне.

Прыкметы на момант знікнення: на выгляд 37 год. Рост каля 170-172 сантыметраў. Мажны целасклад, смуглы твар. Прамыя цёмна-русыя валасы.

Асаблівых прыкмет не мае. У што быў апрануты на момант знікнення, невядома.

Калі вам штосьці вядома пра месцазнаходжанне зніклага, просім паведаміць у міліцыю па тэлефонах: 102, (8-0176) 58-05-61, (8-033) 381-52-90, (8-029) 546-40-44 або звярнуцца на адрас: Маладзечна, Вуліца Галіцкага, 23.

**Юлія КРУК,**
**афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**

# Работнікі ДАІ затрымалі парушальніка са стральбой

Скрыншот з запісу відэарэгістратара, устаноўленага ў аўтамабілі відавочцаў.

Убачыўшы, што кіроўца БМВ пятляе па дарозе, відавочцы выклікалі міліцыю.

**ВІЛЕЙКА**

### Супрацоўнік ДАІ ў Вілейскім раёне ўжыў зброю, каб спыніць парушальніка.

Пацярпелага шпіталізавалі з агнястрэльным раненнем нагі. Такую інфармацыю апублікавалі ў Telegram-канале прэс-сакратара МУС **Вольгі Чамаданавай**.

Увечары 8 сакавіка відавочцы паведамілі ў Вілейскі РАУС, што ў Ільі БМВ белага колеру з'ехала ў кювет. За рулём іншамаркі быў меркавана нецвярозы кіроўца.

> Работнікі ДАІ знайшлі аўтамабіль ля парку па вуліцы Савецкай.

Адзін з пасажыраў перашкаджаў вядзенню адміністрацыйнага працэсу: стукаў рукамі па службовым аўто, абражаў міліцыянераў, затым аднаго з іх ударыў кулаком у твар, – распавяла Вольга Чамаданава. – На неаднаразовыя папярэджанні пра магчымае прымяненне фізічнай сілы, спецсродкаў і агнястрэльнай зброі ён не адрэагаваў.

> Рушылі ўслед тры папераджальных стрэлы ў паветра, а затым – прыцэльны ў нагу.

Медыкі аказалі мужчыну першую дапамогу. Ён быў шпіталізаваны, выстаўлены канвой. Утрыманне алкаголю ў паветры склала 1,48 праміле.

Як высветлілася, грамадзянін судзімы за крадзяжы, неаднаразова прыцягваўся да адказнасці, у тым ліку і за парушэнне ПДР. Яго дзеянням следчыя дадуць прававую ацэнку.

**Паводле прэс-службы МУС.**

## З-за дрэннай электраправодкі згарэў дах у хляве

**МАЛАДЗЕЧНА**

Паведамленне пра загаранне гаспадарчай пабудовы ў вёсцы Парэчча Гарадзілаўскага сельсавета паступіла выратавальнікам 7 сакавіка ў 15:25.

Пасля прыбыцця да месца выкліку работнікі МНС устанавілі, што хлеў гарыць адкрытым полымем. Ліквідавалі пажар у 16 гадзін.

Пажар пашкодзіў дах. Прычыну высвятляюць. Разглядаюць парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання. А менавіта кароткае замыканне электраправодкі, паведамілі ў Маладзечанскім ГРАНС.

Кароткае замыканне можна назваць адной з частых прычын узнікнення пажару.

З усімі прычынамі можна змагацца, калі выконваць некаторыя правілы:

- не выкарыстоўваць старыя правады са зношанай ізаляцыяй;
- быць уважлівым пры правядзенні электрамантажных работ
- не свідраваць, не рэзаць сцены ў тых месцах, дзе пракладзены кабель
- рэгулярна сачыць за станам электрычных разетак і выключальнікаў, пры неабходнасці адразу ж іх замяняць
- не карыстацца пашкоджанымі электрапрыборамі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Знайшлі цела мужчыны з прыкметамі падзення з вышыні

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пятага сакавіка ў Маладзечне загінуў мужчына.

– Цела 48-гадовага жыхара Маладзечна знайшлі каля аднаго са шматпавярховікаў, – расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – На целе – прыкметы падзення з вышыні, верагодна, з восьмага паверха.

Следчыя праводзяць праверку, высвятляюць абставіны здарэння, прычыну смерці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Асудзілі мужчыну, які забіў аднагадовага пасынка

**МЯДЗЕЛ**

Мінскі абласны суд на выязным пасяджэнні абвясціў прысуд 21-гадоваму мужчыну, які забіў аднагадовае дзіця. Пра гэта паведаміла памочнік старшыні суда **Юлія Корзун**. Трагедыя адбылася, пакуль маці дзіцяці была ў радзільні.

Мужчыну прызналі вінаватым у забойстве заведама малалетняга, які знаходзіўся ў бездапаможным стане, учыненым з асаблівай жорсткасцю (ч. 2 арт. 139 КК).

Суд прысудзіў мужчыну да 23 гадоў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны.

У дзень здарэння, пакуль маці дзіцяці была ў радзільні, яе аднагадовы сын застаўся дома з сужыцелем.

– Устаноўлена, што мужчына ў стане алкагольнага ап'янення збіў малога, таму што той плакаў. Ён наносіў яму ўдары рукамі і нагамі ў вобласць галавы і па розных частках цела. Калі ўбачыў дзіця без прыкмет жыцця, вырашыў схаваць злачынства: вынес цела ў сумцы і пакінуў у пустым доме ў Мядзельскім раёне, – паведамілі следчыя.

Пасля таго, што здарылася, мужчына сустрэў сужыцельку з радзільні разам з іх нованароджанай дачкой. Калі жанчына вярнулася дадому, яна стала высвятляць, дзе сын. Мужчына спачатку казаў ёй і міліцыі, што дзіця ў знаёмых, а пазней распавёў, дзе схаваў цела.

**Паводле tut.by.**

## Мужчына заплаціць амаль тысячу рублёў штрафу з-за цыгарэты

**МЯДЗЕЛ**

Суд Мядзельскага раёна разгледзеў крымінальную справу ў дачыненні да 46-гадовага мужчыны, якому інкрымінавалася парушэнне правілаў пажарнай бяспекі.

Згодна з матэрыяламі справы, 26 сакавіка 2019 года мужчыну прыцягнуў да адказнасці Мядзельскі РАНС па ч.1 арт. 23.56 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях за невыкананне заканадаўства аб пажарнай бяспецы.

Ён курыў у сябе дома, а акуркі і скарыстаныя запалкі клаў на лёгказгаральных прадметах.

Летась 26 лістапада пры чарговым курэнні ў пакоі мужчына не пераканаўся ў тым, што затушыў цыгарэту. Выйшаў з хаты, пакінуўшы жыллё без нагляду. Як вынік – у доме адбыўся пажар.

Суд прызначыў яму штраф 945 рублёў. Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны або апратэставаны ў апеляцыйным парадку.

**Паводле Генпракуратуры Рэспублікі Беларусь.**

# Актывісты ў Маладзечне прапануюць не адпускаць шары на выпускным

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэта традыцыя непрадказальна шкодзіць прыродзе, таму і прапануюць знайсці ёй альтэрнатыву.**




На выпускных у ранейшыя гады адным з урачыстых момантаў быў запуск шароў у неба.

Распачала ініцыятыву ў Маладзечне ўдзельнік Рэспубліканскага моладзевага грамадскага аб'яднання «Нэкст Стоп – Нью Лайф» **Ганна Сафонава** ў межах дзейнасці арганізацыі. Актывісты збіраюць подпісы тых, хто прапануе адмяніць запуск шароў. За тыдзень актывісты сабралі каля 423 подпісаў. Сярод іх 167 – ад старшакласнікаў. Пасля спісы накіруюць старшыні Маладзечанскага райвыканкама і начальніку аддзела адукацыі.

Пра тое, што традыцыю з запускам шароў варта замяніць, Ганна задумалася год таму. Яе сын заканчваў дзіцячы садок, і на выпускным захацелі выпусціць шарыкі. Многія бацькі былі супраць акцыі, але ўсё ж большасць перамагла. Ганна з сынам таксама прынеслі шарык, але надзімалі яго самі, на выпускным не адпускалі, а пасля занеслі дадому і праз нейкі час выкінулі ў сметніцу:

– Так ён будзе ўтылізаваны на палігоне, дзе праз пяць год раскладзецца. Страшна, калі шары ляцяць невядома куды, трапляюць у прыроду, дзе іх могуць з'есці птушкі, заблытацца ў парэштках. Калі ж шар занесці назад дадому і выкінуць у сметніцу, шкоды будзе менш.

Сёлета жанчына вырашыла патлумачыць большай колькасці людзей, што гэта дзеянне прыносіць вялікую шкоду прыродзе. Натхніў прыклад барысаўскіх актывістак з клуба «Будзь сабою», з якімі пазнаёмілася на мерапрыемстве InspiredBY.

Летась яны звярнуліся з подпісамі ў райвыканкам, пасля чаго ўлада рэкамендавала школам так скласці сцэнар выпускных, каб момант запуску шароў у неба замяніць нечым іншым.

Ганна разглядае варыянты, якія могуць замяніць запуск шароў. Напрыклад, дзеці могуць самастойна змайстраваць малыя архітэктурныя формы, закласці капсулу, пасадзіць дрэвы, зрабіць лаўкі. Магчыма, для былых школьнікаў будзе асаблівай фраза «сустрэнемся на нашай лаўцы».

### Чаму выпускаць шары шкодна

Актывісты звярнуліся да Міністэрства прыроды з просьбай патлумачыць стаўленне да запуску шароў у неба. Міністэрства адказала: «Лічым, што такія шкодныя для навакольнага асяроддзя традыцыі набылі масавасць і папулярнасць, у першую чаргу, ад недастатковасці адпаведнай інфармацыі. Таму Міністэрствам будуць прыняты адпаведныя меры па павышэнні інфармаванасці насельніцтва аб негатыўных наступствах для навакольнага асяроддзя ад выпуску паветраных шароў у атмасфернае паветра і рэкамендаванню замены такіх мерапрыемстваў на іншыя, больш экалагічныя».

Актывісты тлумачаць, у чым шкода шароў. Латэкс і капронавая нітка ад шароў забруджваюць асяроддзе і доўга раскладаюцца. Латэкс – пяць год, капрон – сто. Птушкі гінуць, калі заблытваюцца ў стужках ад шароў. Гелій, якім надзімаюць шары, гэта прыродны рэсурс, які не аднаўляецца і можа знікнуць праз дзесяць год.

**Птушкі могуць успрымаць шары як ежу, ад гэтага і гінуць. Нярэдка шары заблытваюцца ў правадах, з-за чаго ўзнікаюць пажары.**

Шкоду ад запуску шароў патлумачыла намеснік дырэктара Цэнтра экалагічных рашэнняў **Дар'я Чумакова**:

– Мы вельмі станоўча ставімся да ініцыятывы актывістаў. Усё, што мы з вамі выкарыстоўваем, трапляе ў смецце. На жаль, з планеты нічога выкінуць нельга. Шары пасля палёту трапляюць у навакольнае асяроддзе – на палі, лугі, вадаёмы. Шарыкі – крыніца пластыку і мікрапластыку. Жывёлы могуць заблытацца ў ім, ён трапляе ў ежу. І па харчовым ланцужку можа трапіць і ў арганізм чалавека.

Візуальна шары могуць выглядаць урачыста, але для хвіліннай забавы мы марнуем каштоўныя рэсурсы. Таму рэкамендуем на выпускных ў садках і школах прыдумаць альтэрнатыву. Можна падарыць школе энергазберагальнае абсталяванне або інтэрактыўную дошку. Для прыгожага моманту чаму б не праехаць на роварах? Можна пасадзіць алею выпускнікоў. Варыянтаў безліч, толькі пафантазіруйце. І няхай падарунак не шкодзіць навакольнаму асяроддзю.

### Дырэктар гімназіі: падтрымліваю актывістаў

Дырэктар гімназіі №6 у Маладзечне **Ала Ярашэвіч** станоўча ставіцца да ініцыятывы:

– Канешне, запуск шароў можна замяніць нечым іншым. Мы абмяркоўвалі гэта ў мінулым годзе, але бацькі закупілі шары, і было позна адмаўляцца.

**Нашы старшакласнікі самі гатовыя падпісаць зварот. Так што гэту ініцыятыву падтрымліваю.**

Неяк у адным з суседніх раёнаў запускалі не шары, а кітайскія ліхтарыкі. Адзін з іх патрапіў у стог сена, і пачаўся пажар. Так што варта падумаць не толькі пра прыгожы момант, але і пра наступствы.

### Прадавец шароў: не хочацца губляць кліентаў

Мы распыталі ў аднаго з прадаўцоў гелівых шароў пра стаўленне да ініцыятывы:

– Шары – адна з традыцый для выпускнога. Заўсёды будуць людзі, якія супраць нечага. Канешне, не хацелася б губляць кліентаў. І свята дзецям псаваць таксама не хацелася б.

### Старшакласнікі: ужо думаем, чым замяніць шары

Тым часам самі старшакласнікі таксама абмяркоўваюць, ці варта запускаць шары на выпускным.

– Я лічу, што выпускаць шары неэкалагічна, – расказвае **Ганна Пашкевіч** са школы №5. – Мы разважалі наконт гэтага. Шары можна замяніць галубамі, як на вяселлі. Але, здаецца, ад гэтага будзе яшчэ больш праблем. А ўвогуле, можна нічога не выпускаць.

**Насця Дземеш** са школы №14 мяркуе так:

– Я за тое, каб на выпускным не адпускалі шары ў неба. Таму што цалкам разумею, наколькі яны шкодныя для прыроды. І не бачу сэнсу ў гэтым, лепш сабе яго пакіну.

**Замест шароў можна кідаць каменьчыкі або манеткі ў фантан і загадваць жаданні.**

**Ліза Яблонская** са школы №14 падтрымлівае ініцыятыву:

– Я таксама думаю, што варта адмовіцца ад гелевых шароў, паколькі яны наносяць шкоду наваколлю. Замест гэтага трэба пасадзіць, напрыклад, якія-небудзь расліны. Будзе і прыгожа, і чыста.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) 53-78-04, 8 (029) 676-84-20. |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) 2-11-40. |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) 7-56-17. |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) 6-13-85. |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) 2-00-83, 2-01-03; вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) 5-52-33, 5-55-39. |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) 5-52-66, 5-57-65. |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) 4-47-16 |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Хундай-Акцент 2014 г., прабег 57 000 км. Т. (8-029) 2611461, (8-029) 9187744.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706,(8-029) 7646646 .*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• Дом №28 у в. Засценкі, 3 км ад г. Маладзечна ў бок Насілава, памер 5х8, драўляны. Т. МТС (8-029) 5551814, МТС (8-029) 5593683.

• Дом недабудаваны на ўскрайку г. Астравец. Побач возера, лес. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у Вілейцы з гаспабудовамі, 45 кв.м, 13 сотак зямлі. Т. (8-033) 6671169.

• Дом у аграгарадку Гальшаны па вуліцы Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Т. (8-033) 3513656.*

• Дом у Маладзечне, драўляны, 72 кв. м, вада, газ, электрычнасць, мясцовая каналізацыя, 11 сотак, 53 000 рублёў, торг магчымы. Т. (8-029) 7562992.*

• Дом у Мікольцах Мядзельскага раёна, 90 кв.м, 30 сотак, побач газ, 500 м ад в. Нарач, Мястра. Т. (8-029) 5546406.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота/надпіс на кубак/майку, 9 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442, Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 2449142.

• Трактар Т-25, прычэп, культыватар, плуг. Т. (8-044) 4817147.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**


АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ
(8029) 762-78-98
(8029) 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413


**Іншае**

• Баян, ровар, электрасамавар, чайны сервіз. Т. (8-029) 6949646.

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Універсальны фугавальны вал, новы. Т. (8-029) 9430358.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*


Окна • Двери • Рамы
ПВХ ОТКОСЫ
ДВЕРИ металлические межкомнатные
НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ
Скидки • Рассрочка
Гарантия
Большой ассортимент продукции
Тел. (8-029) 765-78-31
(8-044) 773-86-22
ИП Шмелёв И.Н. УНП 692027451

НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ
• Доступные цены
• Рассрочка 0%
ЖАЛЮЗИ, РОЛЬШТОРЫ
Тел. (8-029) 856-77-96 МТС

МЕБЕЛЬ Люкс
Изготовление корпусной мебели под заказ любой сложности.
Собственное производство.
Доставка, сборка.
Тел. (8-029) 605-50-12
(8-029) 305-50-13
ООО «Завод Пенопласта» УНП 591179569

Молодечненское РАЙПО
СДАЁТ В АРЕНДУ
на выгодных условиях на длительный срок
ПОМЕЩЕНИЕ ТОРГОВЫХ ОБЪЕКТОВ
д. Красное (проезжая часть дороги), п. Березинское, аг Холхлово, д. Раевщина, д. Лапенцы, д.Беница и другие.
Обращаться по тел.:
(8-029) 572-09-06
(8-0176) 73-91-11, 73-19-10
УНП 600213608

Продаются
1-2-КОМНАТНЫЕ КВАРТИРЫ
на третьем этаже в строящемся доме
в г. Молодечно по ул. Городокской, 116-в
Тел. (8-029) 172-17-51
(8-029) 774-06-16
(8-029) 172-82-22
СУП «ЧистьБау» УНП 600042371

ПАМЯТНИКИ
Производство памятников и изделий из природного камня
Низкие цены • Выдержанные сроки
Индивидуальный подход • Гарантия качества
Благоустройство мест захоронения
Вилейский район, д. Шиловичи, ул. Советская, 9
Интернет-сайт: tasos.by
Тел. (8-01771) 2-00-08 • (8-029) 671-96-47 Велком
ООО «Тасос» УНП 690610969

ДВЕРИ МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ МЕЖКОМНАТНЫЕ ОКНА
ИП Пекарская О.Г. УНП 692243859
РАССРОЧКА от банка, от производителя | КРЕДИТ 48 месяцев
ПРОДАЖА-УСТАНОВКА-ДОСТАВКА
✓Замер ✓Консультация дизайнера на дому БЕСПЛАТНО!
Стильный дом
8 029 157-05-19, 8 033 357-48-19

ОКНА, ДВЕРИ, БАЛКОНЫ, ЛОДЖИИ из ПВХ
• Москитные сетки • Откосы
• Регулировка • Замена стеклопакетов
НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ
РОЛЬШТОРЫ, ЖАЛЮЗИ
РАССРОЧКА КРЕДИТ
• Металлические • Закрытого типа • Свободносвисающие • День-ночь
(8-029) 874-80-80 МТС • (8-025) 512-92-66 Лайф
ИП Козел В.Е. УНП 691517355

Верные решения
ООО «САЮРА»
ОКНА и ДВЕРИ из ПВХ
БАЛКОННЫЕ РАМЫ
5 лет гарантия
• Умеренные цены • Высокое качество • Отделка откосов
(8-029) 865-49-59 МТС
(8-029) 656-41-37 А1
(8-029) 886-95-80 МТС
Рассрочка 0%
УНП 690601417

ВОКНЫ танна ад вытворцы
Тэл. (8-029) 394-64-99
(8-029) 763-00-32
ЦА «Белокно» УНП 690536156

НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ на любой вкус
Тел. (8-029) 394-64-99
(8-029) 763-00-32
ОДО «Белокно» УНП 690536156

ПАМЯТНИКИ из натурального гранита и бетона
♦ у нас большой выбор памятников
♦ возможен привоз эксклюзивных моделей любой сложности под заказ
♦ столы, скамейки, ограды, вазы
Выезд на замер
♦ доставка и установка, укладка плитки
♦ художественно-гравировальные работы
♦ профессиональная художественная резьба по камню
Г.Вилейка, ул. И.Ходьки, 6 · www.pomnim.of.by
Тел.: (8-029) 930-46-39, (8-029) 849-46-39
ИП Чернявский А.М. УНП 690573708

• ИЗМЕЛЬЧЕНИЕ ВЕТОК В ЩЕПУ
• УДАЛЕНИЕ ПНЕЙ
• ВЫВОЗ
• АРЕНДА ТЕХНИКИ
Гарантия 100%
Тел. (8-033) 6330830 Вайбер
ИП Тавгень Е.П. УНП 691882722

В аптеку пятой категории ООО «ЛКЛ» в г. Вилейке
ТРЕБУЮТСЯ
ПРОВИЗОРЫ/ФАРМАЦЕВТЫ
• Хорошие условия труда
• Оформление в соответствии с законодательством
• Достойная оплата труда
По всем вопросам обращаться по телефонам:
(8-029) 639-71-80
(8-029) 191-76-06
УНП 100751212

ТЕПЛИЦЫ
БЕСЕДКИ
ПОЛИКАРБОНАТ
WWW.AGROINVEST.BY
МОНТАЖ • ГАРАНТИЯ
РАССРОЧКА
ООО «Светопрозрачная кровля» УНП 591001987
(8033)373-80-20 МТС
(8029)324-80-20 A1

СООО «Детский реабилитационно-оздоровительный центр «Надежда»
ПРИГЛАШАЕТ НА РАБОТУ
МЕДИЦИНСКУЮ СЕСТРУ ПО ФИЗИОТЕРАПИИ,
МЕДИЦИНСКУЮ СЕСТРУ ОБЩЕГО ПРОФИЛЯ
с последующей переподготовкой по физиотерапии
Телефон для справок:
(8-044) 787-70-84
(Дмитрий Григорьевич)
УНП 100341872

• АРМАТУРА
• ТРУБЫ
• МЕТАЛЛОПРОКАТ
• ПРОФНАСТИЛ
РЕЗКА, ДОСТАВКА
Аренда автокрана
г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) 58-04-76, 50-56-53
(8-029) 196-90-53 (-23), (-43)
ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156

Предприятию ОДО «Мастер-Плюс»
срочно требуются на постоянную работу
СЛЕСАРЬ САНИТАРНО-ТЕХНИЧЕСКИХ РАБОТ
ЭЛЕТРОГАЗОСВАРЩИК
Телефон в г.Молодечно:
(8-0176) 52-76-14
моб. (8-029) 684-17-13
ОДО «Мастер-Плюс» УНП 600248010

Приглашаем на постоянную работу в г. Заславле
РАСКРОЙЩИКА МАТЕРИАЛОВ
Ср. зарплата 750 рублей.
Обучение на рабочем месте.
Полный соцпакет.
Трудовой отпуск в летние месяцы.
Доставка транспортом предприятия Молодечно-Красное-Радошковичи-Петришки-Заславль и обратно.
Тел. (8-029) 681-53-04 A1
СООО «Маттиоли» УНП 101503942

Организация предлагает за наличный и безналичный расчёт
КОМБИКОРМ
для бройлеров, КРС, коз, кроликов, свиней, кур-несушек в ассортименте
ОТРУБИ
ЗЕРНО –
43-50 коп. за 1 кг
Действуют СКИДКИ.
Возможна ДОСТАВКА
С 9.00 до 20.00 без выходных
Тел. (8-0176) 77-82-06
ОДО «Меркурий-Трэйд» УНП 690368643

КУП «Молодечненская городская стоматологическая поликлиника»
приглашает
на постоянную работу
ВРАЧА-СТОМАТОЛОГА-ОРТОПЕДА
Тел. (8-0176) 52-19-60
(8-0176) 52-19-62
УНП 600199526

РАССРОЧКА!
Унитарное предприятие «Скайпрофиль» УНП 691537001
СкайПрофиль
КРОВЛЯ
ЗАБОРЫ
МЕТАЛЛ
СТАЛЬНАЯ ГАРАНТИЯ
СОБСТВЕННОЕ ПРОИЗВОДСТВО
МОЛОДЕЧНО, ул. Т. Дудко, 2Б
A1 (029) 680 54 12
(029) 896 97 17
skyprofil.by



Фота vich-spid.ru

Чырвоная стужка – міжнародны сімвал барацьбы са СНІДам.

# На Маладзечаншчыне – 118 ВІЧ-інфіцыраваных

## Чаму неабходна абследавацца на ВІЧ

**Па стане на 1 сакавіка гэтага года ў Беларусі зарэгістравана каля 30 тысяч выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.**

### Пра ВІЧ у Беларусі і на Маладзечаншчыне

Штодзень зноў выяўляюць у сярэднім шэсць новых выпадкаў. У эпідэмічны працэс уцягнутыя практычна ўсе адміністрацыйныя тэрыторыі. У Мінскай вобласці найбольшая колькасць ВІЧ-інфіцыраваных рэгіструецца ў Салігорскім раёне.

У Маладзечанскім раёне і Маладзечне статыстычная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі па стане на 1 сакавіка гэтага года складае 118 чалавек: 70 – па горадзе і 48 – па раёне.

Па-ранейшаму асноўнай прычынай інфіцыравання застаецца кантактны палавы шлях перадачы – 81,3%. Выпадкаў перадачы вірусу пры звароце па медыцынскую дапамогу, пры пераліванні донарскай крыві ў нашым рэгіёне не ўстанавілі.

**Больш інтэнсіўна ВІЧ-інфекцыя распаўсюджваецца сярод мужчын – 60,2%.**

Гэта неспрыяльна адбіваецца на здароўі жанчын, якія ў аднолькавых умовах пры палавым кантакце больш уразлівыя, чым мужчыны. Усё больш у эпідэмію ВІЧ-інфекцыі далучаюцца людзі, якія працуюць – іх 56,8%.

ВІЧ-інфекцыя перастала быць прыярытэтам маладых людзей ва ўзросце да 29 гадоў. Рэгістрацыя новых выпадкаў зрушылася ва ўзроставую групу 30-60 гадоў, дасягнуўшы ў гэтай групе 56,8%.

### Дзе і навошта абследавацца на наяўнасць віруса імунадэфіцыту (ВІЧ)

Гэта можна зрабіць у любой паліклініцы, скурна-венералагічным і псіханеўралагічным дыспансерах і амбулаторыях раёна. Прычым не толькі бясплатна, але, пры жаданні, ананімна.

У кожнай з гэтых устаноў ёсць поўная інфармацыя пра кабінет, дзе можна здаць аналіз крыві на ВІЧ і час яго працы. Акрамя спецыяльнага абследавання крыві на ВІЧ, у аптэках Беларусі ёсць экспрэс-тэсты па сліне. Любы чалавек, вывучыўшы простую інструкцыю, на працягу кароткага часу можа даведацца вынік тэста.

Ведайце, што станоўчы адказ не заўсёды азначае наяўнасць віруса. Неабходнае паўторнае абследаванне, каб выключыць памылку. Ад ведаў свайго ВІЧ-статусу залежаць якасць і працягласць вашага далейшага жыцця.

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь усім людзям, якія жывуць з ВІЧ, тэрапія праводзіцца бясплатна. Прымаючы лячэнне, ВІЧ-пазітыўны чалавек жыве доўга і паўнавартасна. Даведайцеся свой ВІЧ-статус ужо сёння, пратэстуйце сябе на ВІЧ.

**Маргарыта ПРАЦКОВА, доктар-эпідэміёлаг, Маладзечна.**

## Аляксандр Лукашэнка прышпіліў ордэн Маці жыхарцы рэгіёна

ВІЛЕЙКА

6 сакавіка Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды заслужаным дзеячам розных сфер, шматдзетным маці, а таксама генеральскія пагоны прадстаўнікам вышэйшага афіцэрскага складу.

Урачыстая цырымонія адбылася ў Палацы Незалежнасці. Сярод узнагароджаных была і жыхарка Вілейшчыны **Ірына Мікуліч**. Яна атрымала ордэн Маці. Жанчына з сям'ёй жыве ў вёсцы Крывое Сяло на Вілейшчыне. Працуе выхавальніцай Рабунскага навучальна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад-базавая школа. Разам з мужам **Сяргеем** гадуюць пяць дзяцей.

**Паводле БелТА.**

## У бальніцах і паліклініках рэгіёна ўвялі масачны рэжым

Ад 9 сакавіка ў бальніцах і паліклініках Вілейкі, Маладзечна, Валожына, Мядзела, Смаргоні, Ашмянаў і Астраўца медработнікам трэба хадзіць у масках.

Масачны рэжым для медыцынскіх работнікаў увялі ва ўсіх установах аховы здароўя Беларусі. Пра гэта сёння заявілі на прэс-канферэнцыі Мінздароўя.

**Паводле прэс-службы Міністэрства аховы здароўя.**

## Зладзілі вечар рамансa

МАЛАДЗЕЧНА

4 сакавіка ў малой зале Палаца культуры зладзілі вечар рамансa «Адкрыццё». Тут гучалі рамансы ў выкананні **Галіны Баян-Ключнікавай**.

– Я як старшыня ўкраінскай дыяспары Маладзечна прыйшла падтрымаць сяброўку нашага аб'яднання. Прыйшоў і мой намеснік **Леанід Лысакабылка**, – распавяла карэспандэнту старшыня ўкраінскай суполкі «Краяны» **Ясенія Мікуліч**. – Галіна – гонар нашай суполкі. Яна сама родам з Украіны, часта выступае на розных канцэртах. А сёлета прайшла адбор на фестываль нацыянальных культур. Будзе прадстаўляць нашу суполку ў Гродне.

– Рамансы ў выкананні Галіны прагучалі вельмі кранальна, душэўна і таленавіта, – падсумавала Ясенія.

Па яе словах, зала была поўная. А гледачы апладзіравалі спявачцы стоячы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




# «Спачатку страцім свае грошы, а потым мову і культуру»

## Што жыхары рэгіёна і эксперт думаюць пра інтэграцыю з Расіяй

**Цяпер у прэсе абмяркоўваюць тэму інтэграцыі Беларусі і Расіі. Мы спыталі, што на гэту тэму думаюць жыхары і ўраджэнцы рэгіёна і эксперт.**

### Ларыса Сапач, настаўніца: будзе руская мова, рускі чыноўнік і бізнесовец

Спадарыня Ларыса працуе ў адной са школ Маладзечаншчыны. Яе адказ пра магчымасць інтэграцыі з Расіяй – адмоўны.

– Страцім спачатку свае грошы, а пасля мову, гісторыю і культуру. Будзе ў нас вялікадзяржаўная руская мова, рускі чыноўнік і рускі бізнесовец. Калі гаварыць па шчырасці, нас ужо паглынаюць. У Соўлаве вялікі свінакомплекс, які валодаюць расіяне. Палі вакол вёсак моцна заліваюць гноем. Нікому няма справы да людзей, якім такое суседства шкодзіць.

> Чужынец – ён і ёсць чужынец. Улада расійская пра нас не будзе клапаціцца. А гісторыя паказала, які ён ёсць, расійскі брат.

### Юры Рогач, работнік сельскай гаспадаркі: без Расіі – нам ніяк

Юры жыве на Вілейшчыне, працуе на сельскагаспадарчым прадпрыемстве.

У яго іншая думка. Мужчына лічыць, што без Расіі нам не пражыць.

– Беларуская эканоміка не зможа існаваць без расійскіх ільгот, без таннай нафты і газу. А Еўропе мы не патрэбныя.

> Тут трэба абіраць: ці незалежнасць, ці свая развітая эканоміка. Другога ў нас няма. Значыць, трэба ахвяраваць першым, – перакананы вясковец.

### Сяргей Гапон, фатограф: хопіць гуляць у заржавелыя расійскія «Жыгулі»

У фатографа з Крэва Сяргей Гапона думка пра інтэграцыю Беларусі і Расіі наступная:

– У пясочніцы з Расіяй мы не першы год. Аднак разам з намі тут і іншыя дзеці. І варта агледзецца па баках. Не трэба адмаўляцца ад тых цацак, якія ёсць у іх. Так, гэтыя машынкі шмат у чым новыя і складаныя для нас. Але варта паспрабаваць сесці за руль і навучыцца кіраваць імі, збочыць на іншую дарогу. Хай сабе першы час побач з намі будуць інструктары, гэта нармальна. Асабіста для мяне – факт, што гуляць у заржавелыя расійскія «Жыгулі» дастаткова. Я ўласнымі вачыма бачыў, куды на іх прыехалі жыхары Луганскай і Данецкай абласцей. Дзякуй, не.

### Аляксей Буркевіч, прадпрымальнік: з Беласточчынай – так, з Расіяй – не

Ураджэнец Вілейшчыны Аляксей Буркевіч цяпер жыве ў Мінску. Займаецца прадпрымальніцтвам.

– Я супраць. Калі б спыталіся, ці хачу я аб'яднацца са Смаленшчынай, Беласточчынай, Віленшчынай, то я адказаў бы «Канешне, хачу!».

> А ці хачу я, каб маю краіну паглынула Расія? Адназначна – не!

### Аляксей Лукашэвіч, менеджар: я – за добрасуседскія адносіны

Аляксей Лукашэвіч – ураджэнец Ашмянаў. Але ўжо некалькі год хлопец жыве ў Маскве. Тут згуртаваў суполку беларусаў.

– На працы ў маім асяроддзі неяк асабліва не падымаюць тэму інтэграцыі. Маё меркаванне – я за добрасуседскія адносіны і супраць інтэграцыі. Дарэчы, мае калегі – а яны ўсе расіяне – таксама за добрасуседства. Кажуць, трэба свае, унутраныя праблемы вырашаць, а не аб'ядноўвацца, – расказаў Аляксей.

### Эксперт: Інтэграцыя з Расіяй патрэбная. Эканамічная

А што думае пра інтэграцыю Беларусі і Расіі эксперт-эканаміст **Яраслаў Раманчук?**

– Сёння, калі доля экспарту тавару ў Расію – 42%, а доля імпарту – 57%, калі мы бяром амаль сто працэнтаў энергарэсурсаў і крэдытаванне, без Расіі немагчыма. Гэта відавочна. Любыя спробы зрабіць для Беларусі на расійскім рынку больш жорсткія ўмовы, яшчэ мацней ударацць па нашай эканоміцы. Беларусь не павінна ставіць пытанне пра ізаляцыю. У незалежнай краіны павінна быць моцная эканоміка, інтэграваная і на поўнач, і на поўдзень, і на захад, і на ўсход. Эканамічная інтэграцыя з Расіяй павінная быць, – перакананы эксперт.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## На скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Гарадоцкай змянілі схему руху

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад 9 сакавіка на рэгуляваным скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Гарадоцкай для павышэння бяспекі на дарозе змянілі схему дарожнага руху і рэжым працы святлафора, паведаміў старшы інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

Транспартныя плыні раздзялілі ў галоўным кірунку.

> Цяпер будзе пропуск аўтамабіляў па Вялікім Гасцінцы з боку Мінска і з боку Смаргоні па чарзе.

Падобная схема ўжо ёсць у Маладзечне – на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Лебедзеўскай у раёне «Спадарожніка».

ДАІ пераканаўча просіць кіроўцаў быць як мага больш уважлівымі пры праездзе скрыжавання, дзе змянілася схема руху.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Маладзечне могуць з'явіцца электробусы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта паведамілі ў Мінаблвыканкаме.

У Маладзечна плануюць набыць 20 электробусаў. Імі хочуць замяніць звычайныя аўтобусы. Гэта зробяць для паляпшэння экалагічнай сітуацыі.

Горад мае патрэбу ў электробусах з дальнасцю ходу на адной зарадцы не менш за 250 кіламетраў.

**Паводле БелТА.**

## Якія арганізацыі прапаноўвалі працу на кірмашы вакансій

**СМАРГОНЬ**

27 лютага ў Смаргоні зладзілі кірмаш вакансій. Запрасілі беспрацоўных, навучэнцаў Смаргонскага ліцэя, працадаўцаў.

Прадстаўнікі кадравых службаў прадпрыемстваў і арганізацый – РУП «ЖКГ», завода аптычнага станкабудавання, ліцейна-механічнага завода, ААТ «Смаргоньаграсэрвіс», агрэгатнага завода – паведамілі, якія неабходныя спецыялісты на іх прадпрыемствы. Расказалі пра заробкі, іншыя меры стымулявання.

Трое беспрацоўных атрымалі накіраванні на працаўладкаванне, адзін грамадзянін запісаўся на курсы «Асновы прадпрымальніцкай дзейнасці», каб атрымаць субсідыю на адкрыццё ІП, распавялі ў Смаргонскім райвыканкаме.

У рамках кірмашу вакансій зладзілі выставу работ ручной вышыўкі рамесніцы з аграгарадка Залессе **Зофіі Войткі**. У лістападзе 2018 года яна была зарэгістраваная ў якасці беспрацоўнай. Даведаўшыся пра яе захапленні, у службе занятасці прапанавалі аформіць рамесніцкую дзейнасць, распавядаюць у райвыканкаме.

Напісаўшы бізнес-план і паспяхова абараніўшы яго, у снежні Зофія Іванаўна валодала ўжо бязвыплатнай субсідыяй **3213,15** рубля для адкрыцця рамесніцтва. Зофія Войтка цяпер працуе на сябе, але кожны дзень аддае свайму рамяству не менш за восем гадзін.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Гальшанскім замку ўмацоўваюць галоўны фасад

**АШМЯНЫ**

Гальшанскі замак працягваюць рэстаўраваць. У сакавіку пачаліся работы па ўмацаванні галоўнага фасада.

Гэта частка комплексу – галоўны фасад – звязаная з адзінай уцалелай вежай.

У гэтым годзе таксама пачнецца музеефікацыя помніка архітэктуры ў Гальшанах.

– Мы далікатна падыходзім да гэтай тэмы, працуем над канцэпцыяй консервацыі. Максімальна выкарыстоўваем аўтэнтычны матэрыял – знакамітую гальшанскую пальчатку, – сказаў метадыст Ашмянскага раённага цэнтра культур **Сяргей Жылік**.

**Паводле АНТ.**

## Сёлета ў Маладзечне з'явіцца каля трохсот кватэр

**МАЛАДЗЕЧНА**

За 2020-2021 год у Маладзечне з'явяцца новыя шматпавярхоўкі, пачатковая школа, дзіцячы садок і ЗАГС.

У 2020 плануюць пабудаваць трыста кватэр. Дзвесце з іх атрымаюць шматдзетныя сем'і. Садок і пачатковая школа на 471 месца павінны з'явіцца ў мікраёне «Усходні» ў верасні 2021 года. Новы будынак ЗАГСа ўключаны ў абласную інвестпраграму на 2020 год.

**Паводле СТБ.**




Трыскайдэкафобія – гэта страх перад лічбай 13.

# Пятніца 13: як людзі пачалі баяцца і стварацць легенды

**Пятніцу 13 называюць днём непрыемнасцяў. З гэтым днём звязваюць паданні пра тампліераў, а кінаіндустрыя зарабіла шмат грошай на фільмах жахаў пра «самы неспрыяльны дзень». Аднак культуролагі лічаць, што легенда пра пятніцу 13 з'явілася толькі ў пачатку 20 стагоддзя.**

**«Два паказальнікі няўдачы ўрэшце зліліся, каб стварыць адзін няўдачлівы дзень»**

Даследчыкі-культуролагі лічаць прыкмету пятніцы 13 аднosна нядаўняй з'явай, якая ўзнікла дзесьці на мяжы 19-20 стагоддзяў са зліцця двух сапраўды старажытных забабонаў: пра неспрыяльныя пятніцы і лічбы 13.

У 2004 годзе Джон Роўч у артыкуле для «Нэшнл Джыяграфік» напісаў пра з'яўленне пятніцы 13:

– Два паказальнікі няўдачы ўрэшце зліліся, каб стварыць адзін няўдачлівы дзень.

У англамоўных крыніцах першая згадка пятніцы і 13 у адным кантэксце, хоць і ўсё яшчэ паасобку, была знойдзеная толькі за 1869 год. Яна з'явілася ў біяграфіі італьянскага кампазітара Джаакіна Расіні. Расіні памёр у пятніцу, 13 лістапада 1868 года:

> **– Расіні да канца сваіх дзён быў акружаны любоўю і спагадай сяброў. І калі праўда тое, што ён, як многія італьянцы, лічыў пятніцу днём няўдачы, а 13 – лічбай няўдачы, то характэрна, што памёр ён у пятніцу, 13 лістапада.**

У той жа час англійскі «Слоўнік выразаў і крылатых слоў» Брэвера, які надрукавалі ў 1889 годзе, не меў асобнага артыкула аб пятніцы 13. Аднак там знаходзіліся асобныя артыкулы пра пятніцу і лічбу 13.

У 1907 годзе сярод студэнтаў Гарварда правялі апытанне, у якім толькі два чалавекі згадалі пятніцу і 13-е. Яны па-ранейшаму падзялялі абедзве падзеі:

– Калі 13-е чысло месяца прыпадае на пятніцу, то больш шанцаў для няшчасцяў.

Менавіта на рубяжы 1907-1908 гадоў адбываюцца змены ў мове і культуры, прычыну якіх дагэтуль культуролагі і гісторыкі не зафіксавалі. У 1908 годзе навіной за пятніцу, 13 сакавіка «Нью-Ёрк Таймс» апублікаваў нататку з падзагалоўкам «Пятніца 13-е не палохае сенатара Оўэна». У нататцы казалася, што сенатар у гэты дзень вынес у Сенат 13 законапраектаў. Даследчык Лахенмаер лічыць важным, што «Пятніца 13» аўтар напісаў без коскі. Гэта была не памылка, а прыкмета фразеалагізацыі выразу.

Даследчыкі таксама знайшлі паваротную падзею ў распаўсюджванні забабонаў пра пятніцу 13. У канцы 1907 года фінансіст і пісьменнік Томас Лоўсан надрукаваў раман «Пятніца трынаццатае». У той час твор стаў папулярным, а загаловак падхапіла прэса. У рамане апісваліся махінацыі на фондавай біржы і выкарыстанне пры гэтым страхаў некаторых людзей перад пятніцай і лічбай 13.

**А што з тампліерамі?**

Гісторыя ордэна тампліераў стала адным з галоўных тлумачэнняў адмысловага стаўлення да пятніцы 13. Гісторыю распаўсюджвалі ў кнігах па альтэрнатыўнай гісторыі і эзатэрыцы. Версія аб тампліерах, нягледзячы на спасылку да падзей сярэднявечча, мае сучаснае паходжанне і навукоўцамі сур'ёзна не ўспрымаецца.

> **Тампліераў у кантэксце пятніцы 13 згадваюць з-за французскага караля Філіпа IV. 13 кастрычніка 1307 года ён загадаў арыштаваць членаў ордэна.**

У выніку працэсу па абвінавачанні ў ерасі ордэн распусцілі, а многіх арыштаваных у Францыі тампліераў катавалі і пакаралі.

У 1981 годзе французскі эзатэрык і акультыст Робер Амбелен у кнізе «Таемны ўнутраны круг тампліераў» напісаў:

– Дзень быў абраны не выпадкова. Кароль абраў пятніцу як дзень распяцця Хрыста. Ён абраў 13-ты дзень месяца – намёк на нешчаслівую лічбу. «13» лічылася дрэннай лічбай у Гамера і Цыцэрона. У старажытнаяўрэйскай Кабале было 13 духаў зла, і 13-м у Пісанні быў згаданы Юда, які выдаў Хрыста. Да гэтага ж на Тайнай вячэры той жа Юда быў 13-м сатрапезнікам, Дзень Мукі Пана прыйшоўся на 13-е чысло па месяцавым календары, 13-я кіраўнік Апакаліпсісу кажа пра антыхрыста, а 13-ты раздзел Евангелля ад Яна – пра здраду Юды.

Амбелен быў не адзіным, хто выказаўся і потым напісаў кнігі пра гісторыю тампліераў. «Святая Кроў і Святы Грааль» у суаўтарстве Майкла Бэйджэнта, Рычарда Лі і Генры Лінкальна ўтрымлівае практычна такую ж гісторыю пра пятніцу 13 – кніга выйшла ў 1982 годзе. Пазней у 2003 годзе Дэн Браўн у «Кодзе да Вінчы» апісаў гісторыю тампліераў са спасылкай на гэты ж дзень.

**Як на пятніцы 13 пачалі зарабляць і страчваць**

Фінансіст Томас Лоўсан апісваў у рамане спосабы заробку на біржы і як нерацыянальны страх праз пятніцу 13 уплываў на людзей і аперацыі з грашыма. Аднак з развіццём кінематографу на неспрыяльным дні пачалі зарабляць масава.

> **У 1980 годзе выйшаў фільм жахаў «Пятніца 13». З малым бюджэтам у 550 тысяч долараў касавыя зборы склалі 39 мільёнаў. У фільма з'явіліся шматлікія працягі і адаптацыя пад камп'ютарныя гульні.**

Аднак на гэтай даце не толькі зарабляюць, але і страчваюць. Па розных даследаваннях, на якія спасылаецца Джон Роўч у артыкуле «Пятніца 13 – фобія з каранямі ў старажытнай гісторыі», амерыканская эканоміка страчвае каля 800-900 мільёнаў у кожны такі дзень.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Дзе і як здаць аналіз на каранавірус у рэгіёне

**Існуе некалькі месцаў, дзе праводзяць лабараторнае абследаванне на інфекцыю COVID-19.**



Фота гаспажы яе вялічаства Настассі УТКІНАЙ.

Пра гэта распавядае прэс-служба Міністэрства аховы здароўя.

У краіне арганізаваныя пункты забору мазкоў:

- у пунктах пропуску пры перасячэнні Дзяржаўнай мяжы на базе санітарна-каранцінных пунктаў;
- у інфекцыйных бальніцах або аддзяленнях;
- у асобных паліклініках на базе кабінетаў інфекцыйных захворванняў.

Вось пералік пунктаў забору мазкоў на 4 сакавіка па нашым рэгіёне:

**Маладзечна**: прыёмнае аддзяленне бальніцы па Валынца, 1, (8-0176) 77-00-78.

**Вілейка**: прыёмнае аддзяленне ЦРБ, вуліца Маркава, 27, (8-01771) 5-43-54.

**Валожын**: інфекцыйнае аддзяленне ЦРБ па вуліцы Горкага, 13, (8-01772) 5-50-62.

**Смаргонь**: інфекцыйнае аддзяленне ЦРБ, завулак Бальнічны, 13, (8-01592) 4-67-65.

**Мядзел**: інфекцыйнае аддзяленне ЦРБ па вуліцы Камуністычнай, 23, (8-0197) 2-43-53.

**Ашмяны**: інфекцыйнае аддзяленне ЦРБ, вуліца Барунская, 35, (8-01593) 7-37-54.

**«Каменны Лог»**: санітарна-каранцінны пункт у Ашмянскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, Ашмяны, вуліца Савецкая, 64, (8-01593) 3-27-46.

**«Катлоўка»**: санітарна-каранцінны пункт занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, Астравец, вуліца Зялёная, 22, (8-01591) 7-01-94.

### Як прайсці абследаванне на каранавірус

У пунктах пропуску праз мяжу бяруць мазкі ў тых, хто да 14 дзён таму прыехаў з эпідэмічна надобранадзейных на каранавірусную інфекцыю краін. На 3 сакавіка гэта Кітай, Іран, Італія, Паўднёвая Карэя. Звесткі пра такіх людзей перадаюць у паліклінікі па месцы жыхарства, каб за імі арганізавалі медыцынскае назіранне.

У пунктах збору мазкоў на базах інфекцыйных бальніц, паліклінік, кабінетаў інфекцыйных захворванняў праводзяць абследаванне гэтых грамадзян.

**Тых, хто меў цесны кантакт з пацыентамі, у якіх пацвердзілі каранавірус, ізалююць.**

Яны праходзяць лабараторнае абследаванне па месцы ізаляцыі.

Тых, хто меў ням доўгі і няблізкі кантакт, наглядаюць медыкі.

Калі ў вас узніклі сімптомы рэспіраторнага захворвання (тэмпература павысілася больш за 37,1 градуса, кашаль і іншыя), вы вярнуліся з эпіднебяспечных па каранавіруснай інфекцыі краін, то цягам 14 дзён пасля вяртання выклікайце «хуткую дапамогу» і паведаміце пра сімптомы. Скажыце, з якой краіны вярнуліся, і назавіце дату. Звярнуцца да медыкаў неабходна і тым, хто меў кантакт з такімі людзьмі. Лабараторнае абследаванне вам правядуць па месцы шпіталізацыі.

Усе астатнія праходзяць лабараторныя абследаванні на каранавірусную інфекцыю COVID-19 толькі пры наяўнасці паказанняў і па накіраванні доктара. Такое накіраванне можа выдаць участковы тэрапеўт.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

## Як абараніць сябе ад каранавіруса

**Сусветная арганізацыя аховы здароўя распрацавала рэкамендацыі ў сувязі з распаўсюджаннем інфекцыі.**

### Рэгулярна мыйце рукі

Апрацоўвайце рукі сродкамі, што ўтрымліваюць спірт, або мыйце іх з мылам. Калі на руках ёсць вірус, то спірт або мыла яго заб'юць.

### Трымайцеся дыстанцыі ў грамадскіх месцах

Старайцеся быць на адлегласці хаця б аднаго метра ад іншых. Асабліва калі ў іх кашаль, насмарк і павышаная тэмпература.

**Калі людзі кашляюць або чхаюць, пры гэтым хварэюць на рэспіраторную інфекцыю, то распаўсюджваюць вакол дробныя часцінкі з утрыманнем віруса.**

Калі стаіш блізка ад такога чалавека, можаш заразіцца пры ўдыханні паветра.

### Па магчымасці не чапайце вочы, нос і рот

Рукамі вы дакранаецеся да шматлікіх паверхняў. На іх можа быць вірус. Калі рукамі з інфекцыяй чапаць вочы, нос або рот, можна перанесці вірус са скуры ў арганізм.

### Трымайцеся правілаў рэспіраторнай гігіены

Калі кашляеце або чхаеце, прыкрывайце рот і нос сурвэткай або згібам локця. Адразу выкідайце сурвэтку ў сметніцу з накрыўкай. Пасля гэтага апрацоўвайце рукі антысептыкам са спіртам або мыйце вадой з мылам.

Калі вы прыкрываеце рот і нос, то папярэджваеце іх распаўсюджанне. Калі прыкрывацца рукой, мікробы могуць трапіць на рукі, а пасля на паверхні, да якіх дакранаецеся.

Калі ў вас павысілася тэмпература, з'явіўся кашаль, стала цяжка дыхаць, неадкладна звяртайцеся па медыцынскую дапамогу.

Калі вы былі ў раёнах, дзе рэгістравалі 2019-nCoV або кантактавалі з людзьмі, што прыехалі з такіх раёнаў, паведаміце пра гэта медыцынскаму работніку.

**Сачыце за інфармацыяй пра сітуацыю з вірусам і выконвайце рэкамендацыі медыцынскіх работнікаў.**

У цэнтральных і мясцовых органах аховы здароўя ёсць самая актуальная інфармацыя пра дынаміку захворвання ў раёне. Таму менавіта яны могуць даць найбольш важныя рэкамендацыі пра меры абароны.

**Паводле паведамлення Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.**

**ПАКЛАПАЦІЦЕСЯ пра блізкіх у час #COVID19**


Рэгулярна пытайцеся пра здароўе блізкіх. Асабліва тых, каго закранула ўспышка захворвання


Парайце ім займацца прыемнымі справамі


Пазнаёмце іх з інфармацыяй Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, каб развеяць страхі і сумненні


Давайце дзецям спакойныя і правільныя парады

Прачытайце важную інфармацыю і будзьце ГАТОВЫЯ да #COVID19: www.who.int.

 Арганізацыя Аб'яднаных Нацый

 Сусветная арганізацыя аховы здароўя

# Аб'яднаная каманда «Маладзечна» і «Андэрдога» можа не згуляць у першай лізе

**10 сакавіка «Прессбол» паведаміў, што невядома, у якой лізе аб'яднаны клуб пачне новы сезон.**

Аб'яднаная каманда толькі нядаўна адправіла дакументы па ліцэнзаванні.

### Ліст ад «Андэрдога» да старшыні Мінаблвыканкама

На мінулым тыдні клуб з Чысці накіраваў старшыні Мінскага аблвыканкама **Аляксандру Турчыну** ліст-абгрунтаванне, чаму аб'яднанне павінна адбыцца.

У лісце за подпісам спонсара «Андэрдога» **Аляксея Ерамчука** просяць «дазволіць на годным узроўні прадстаўляць рэгіён у першай лізе, павысіць канкурэнцыю ў турніры і, такім чынам, цікавасць да футбола». Пры гэтым прапануецца захаваць назву «Андэрдог», дамашнія матчы праводзіць у Маладзечне, а бюджэт клуба «сфарміраваць у роўных долях за кошт бюджэтных сродкаў і прыватнага капіталу».

Новы дырэктар аб'яднанага футбольнага клуба **Аляксей Пінчук** распавёў «Прессболу», што казна «Андэрдога» складзе прыкладна 400-450 тысяч рублёў. Аднак, як паведамляе спартыўнае выданне са спасылкай на начальніка аддзела спорту і турызму райвыканкама **Рамана Кузняцова**, Маладзечанскі райвыканкам не гатовы даць сваю частку ўнёску:

– Цяпер прапрацоўваем юрыдычную законнасць фінансавання такога праекта. Але напаўняць бюджэт клуба напалову дакладна не будзем – у нас столькі грошай няма. У мінулым годзе патрацілі на «Маладзечна» 115 тысяч рублёў. Цяпер можам выдаткаваць столькі ж, калі ўвогуле не менш.

### Што будуць рабіць, калі райвыканкам не дасць частку ўнёску

Аляксей Ерамчук у выпадку, калі райвыканкам не дасць грошы, мае намер шукаць сродкі з іншых прыватных крыніц. Тым часам лёсаванне першай лігі пройдзе ў пачатку наступнага тыдня – 16 сакавіка.



На працягу сакавіка вырашыцца, ці будзе гуляць аб'яднаны клуб у першай лізе.

Колькасць удзельнікаў турніру – прынцыповы момант. Калі іх застанецца 14, паменшыцца і агульная колькасць тураў. Аб'яднаны клуб «Маладзечна» і «Андэрдог» толькі нядаўна пачаў перадаваць у ліцэнзійны аддзел БФФ неабходныя дакументы. Уручэнне ліцэнзій у першай лізе запланавана на 25 сакавіка.

Як стала вядома Football.by увечары 10 сакавіка, «Андэрдог» у сезоне-2020 года не будзе выступаць у першай лізе. Такім чынам, другі дывізіён у гэтым годзе можа быць прадстаўлены 14 камандамі.

### Заўзятары: горад не выканаў сваіх абавязкаў перад кіраўніцтвам новага клуба

Маладзечанскія фанаты сустрэліся з Ерамчуком і Пінчуком на выхадных, каб абмеркаваць захаванне гістарычнай спадчыны клуба. Нагадаем, што заўзятары ФК «Маладзечна» выступалі супраць аб'яднання. У аўторак, 10 сакавіка, фанаты выступілі з заявай наконт сітуацыі з аб'яднаннем камандаў.

– У сувязі з тым, што няма канкрэтыкі пра будучыню каманды, хацелася апублікаваць справаздачу аб сустрэчы з Ерамчуком і Пінчуком, калі наступіць яснасць. Аднак для таго, каб не ўзнікалі якія-небудзь здагадкі і іншае, коратка расказваем самыя важныя дэталі. Галоўнае, што было агучана: горад не выканаў сваіх абавязкаў перад кіраўніцтвам новага клуба, знаходжанне ў праекце Ерамчука пад пытаннем. Што да назвы каманды, колераў і эмблемы – нас чуюць. Канструктыўны дыялог магчымы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дынамаўцы вырвалі перамогу ў серыі з «Гомелем» у дадатковы час

**Маладзечанцы перамаглі ў вырашальным матчы чвэрцьфінальнай серыі супраць «Гомеля» – дынамаўцы вырвалі перамогу ў дадатковы час.**

**Гэта была сёмая гульня паміж камандамі. Дагэтуль у клубаў была нічыя ў серыі – 3:3.**

### Як прайшоў вырашальны матч

За стартавы першы перыяд гамяльчане ўсяго двойчы закінулі шайбу ў створ варот. А маладзечанцы ў той жа час зрабілі гэта 15 разоў. Аднак першую шайбу закінуў форвард «Гомеля» **Юры Какшараў** у другім перыядзе. Потым **Вячаслаў Грэцкі** зраўняў лік. На куражы маладзечанцы развілі поспех. **Павел Пячура** ўсяго праз тры хвіліны вывеў гаспадароў наперад – **2:1**.

«Гомель» адказаў выхадам **Аляксандра Скорынава** сам-насам з галкіперам маладзечанцаў – **2:2**.

На старце трэцяга перыяду гамяльчане захапілі лідарства: Какшараў аформіў дубль – **2:3**. **Ілля Літвінаў** з «Дынама-Маладзечна» неўзабаве зраўняў лік у гульні.

**У дадатковы час Арцём Волкаў выкаціўся з-за варот і забіў шайбу ў блізкі кут.**

Праўда, адразу ж парадавацца гаспадарам суддзі не далі – момант вывучалі на відэа. У выніку гол залічылі – **4:3**. Такім чынам, «Дынама-Маладзечна» праходзіць у паўфінал плэй-оф экстралігі.

### Каментары трэнераў пасля гульні

На прэс-канферэнцыі пасля гульні трэнеры камандаў дзяліліся ўражаннямі ад чвэрцьфінальнай серыі і сёмага вырашальнага матча.

Галоўны трэнер «Гомеля» **Сяргей Стась** павіншаваў **Дзмітрыя Краўчанку** з перамогай і выказаўся, што сёмая гульня была добрай.

– Ганаруся сваімі хлопцамі, для мяне яны не прайгралі. Правялі каласальную працу, яны хутка прагрэсіруюць і думаю, што ў іх усё наперадзе. Што тычыцца матча, мы вялі, але сваю ролю адыгралі дэталі.

Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» Дзмітры Краўчанка падзяліўся, што вялікую ролю ў перамозе адыгралі заўзятары.



Перамогу «Дынама» прынёс Арцём Волкаў.

– Перад авертаймам папрасілі хлопцаў згуляць не толькі за каманду, але і за тых людзей, якія прыйшлі на трыбуны. Нам трэба было нешта такое, каб пераламаць сябе ўнутры. Думаю, што шостая гульня, у якой нам забілі нестандартныя галы, трохі падламала гульцоў. Але сёння ў нас быў шосты гулец – наш заўзятар, і мы рады, што выйгралі гэту серыю.

У паўфінале сапернікам дынамаўцаў стане мінскае «Юнацтва». Серыя стартуе ўжо 11 сакавіка на лёдзе «Чыжоўкі-Арэны».

**Паводле hockey.by.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Гукі, якія ўзнікаюць пры размове, крыку або спеве дзякуючы хістанню галасавых звязак.
5. Вельмі моцны, раскацісты шум.
7. Чалавек, які прыкідваецца.
9. Пісьмовае распараджэнне; дакумент на атрыманне.
11. Мясныя катлеты з начынкай.
13. Музычна-драматычны твор, у якім выканаўцы спяваюць у суправаджэнні аркестра.
14. Збудаванне ў выглядзе раду прыступак для пад'ёму і спуску.
17. Беларускі празаік, публіцыст, які нарадзіўся на Мёршчыне. Сярод твораў «Асвейская трагедыя», «Адкуль вясёлка п'е ваду».
19. Вялікая парусная ці вёславая лодка.
21. Невялікая пасудзіна з кнотам на паплаўку і алеем, якая запальваецца перад абразамі.
23. Аляксандр Македонскі амаль нічога не баяўся, але яны яго па-сапраўднаму пужалі.
25. Левы прыток Нёмана.
26. Буйная вадаплаўная птушка сямейства качыных з доўгай шыяй, свойская або дзікая.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Назва кнігі Міхася Чарняўскага.
3. Рабочы, спецыяліст па ручной апрацоўцы, зборцы і рамонце металічных вырабаў.
4. Спецыяльна.
6. Верхні слой кары нашай планеты; глеба, грунт.
7. Сукупнасць заканамерна звязаных паміж сабой элементаў, якія складаюць пэўнае цэласнае ўтварэнне, адзінства.
8. Наследны тытул вышэйшага дваранства ў Англіі.
10. Дзмітры Мендзялееў вядомы як знакаміты хімік. Аднак толькі дзясятая частка яго навуковых прац прысвечаная хіміі. Навукоўцу злавалі плёткі, што табліца яму прыснілася, таму што гэта абясцэньвае тытанічную працу. У вольны час Мендзялееў любіў рабіць чамаданы. Яны былі выдатнай якасці, таму што навукоўца распрацаваў для іх адмысловы …
11. Нябеснае цела, якое па сваёй прыродзе падобнае на Сонца і ўяўляецца чалавеку на начным небе ззяючай кропкай.
12. Група людзей, аб'яднаных агульнасцю поглядаў, інтарэсаў.
15. Не галосны.
16. Сваяк вугалю і графіту па хімічным складзе.
17. Фільм 1960 года Альфрэда Хічкока.
18. Грошы, каштоўныя рэчы, каштоўнасці.
20. Кожная з дзвюх костак твару, у якіх умацаваныя зубы.
22. Цытрусавы плод.
24. Вобраз Пане Каханку ў літаратуры падаюць аднабока – як гультая і блазна. За гэтым вобразам імперская прапаганда схавала гісторыю шчырага патрыёта, які змагаўся за незалежнасць Радзімы. Назавіце яго першае імя.

## Адказы на крыжаванку з №10

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Лексіка. 3. Асфальт. 4. Радзіма. 5. Няёмка. 8. Табель. 9. Капішча. 12. Нізкі. 13. Туга. 15. Аўтобус. 17. Куранец. 18. Нектар. 22. Кітай. 23. Атмасфера. 25. Танга. 27. Лагчына. 28. Татэм.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Вісла. 6. Лімфа. 7. Лямант. 10. Аспект. 11. Кнігарні. 14. Паркер. 16. Швецыя. 17. Канцэрт. 19. Латок. 20. Бор. 21. Нумар. 24. Трэнне. 26. Асечка.


**Мінскі абласны тэатр лялек «Батлейка». Рэпертуар на сакавік**

Р.Осцер.
**«ШМАТОЧКІ ПА ЗАКУТОЧКАХ»**
(жыццёвая гісторыя, рус.), 3+
**15 сакавіка – у 12:00**

А.Жугжда.
**«КАЗКІ З КУФЭРКА»**
(спектакль-імправізацыя, бел.) 3+
**22 сакавіка – у 12:00**

В.Вольскі.
**«ЦУДОЎНАЯ ДУДКА»**
(чароўная казка, рус.) 3+
**29 сакавіка – у 12:00**

**ДАРОСЛЫМ!**

Да Міжнароднага дня тэатра
Н.Макіявелі.
**«МАНДРАГОРА»**
(камедыя для дарослых) 18+
**27 сакавіка – у 19:00**

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, па адрасе:
**г.Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (80176) **74-62-19, 50-56-96, 74-63-79.**

УНП 600136804


● ГАРАСКОП НА 13-19 САКАВІКА

## Колькі ў вас мужнасці

**АВЕН.** Вы верныя сваім прынцыпам і светапоглядам. І адстойваеце іх з такой мужнасцю, што можна толькі захапляцца. З такім жа запалам аберагаеце тое, што па-сапраўднаму для вас важна.

**ЦЯЛЕЦ.** Прадстаўнікі гэтага знака разумеюць мужнасць не як тое, што трэба даказваць у баі. Яны праяўляюць адданасць і надзейнасць кожны дзень. Таму з імі спакойна ў любой сітуацыі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Ваша брутальнасць лёгкая і дакладна не агрэсіўная. Вы будзеце дабівацца свайго, але пакуль дабівацца нескладана. Усё ж перамога любой цаной – дакладна не пра вас. Ды і ў дарозе да мэты вы можаце зразумець, што гэта не так і важна для вас.

**РАК.** Самы адчувальны і эмацыйна ўразлівы знак. З імі складана пабудаваць узаемадзеянне без умення тонка адчуваць стан. Разам з тым гэтыя людзі здольныя праяўляць рашучасць і мужнасць у самых экстрэмальных сітуацыях.

**ЛЕЎ.** У вас ёсць моц, статус, улада ў большай ці меншай ступені. Вам важна выглядаць поўным мужнасці, і гэта лёгка ўдаецца. Не зніжайце ролю пачуцця гумару, яно дапамагае стварыць патрэбны вобраз.

**ДЗЕВА.** Прадстаўнікі знака – мужныя, моцныя і разумныя. Вам складана ісці на кампрамісы. На думку Дзеваў, менавіта яны прымаюць самыя слушныя рашэнні, і пераканаць у гэтым вельмі няпроста.

**ШАЛІ.** У вас шмат прыцягальных рысаў. Ваша мужнасць без агрэсіі і геройства напаказ. Вы скараеце ўменнем клапаціцца і паказваць пяшчоту. Часам гэта самае важнае, што ад вас чакаюць.

**СКАРПІЁН.** Вам заўсёды ўсяго мала, і звычайна вы не бачыце межаў пры дасягненні мэтаў. У адносінах цвёрдыя і нават жорсткія. З вамі ніколі не страшна, хаця зрэдку можаце праявіць пачуццёвую натуру.

**СТРАЛЕЦ.** На любы выклік вы абавязкова адкажаце. Калі неяк зачапіць або пакрыўдзіць Стральца, ён абавязкова адкажа крыўдзіцелю. Не прапусціць выпадку самазацвердзіцца.

**КАЗЯРОГ.** Моцныя і стрымaныя людзі, якія прыцягваюць асаблівай харызмай. У сярэднім узросце хібы характару згладжваюцца, і Казярогі становяцца самымі надзейнымі сябрамі і партнёрамі.

**ВАДАЛЕЙ.** Цэніце свабоду, таму немагчыма ўтрымаць вас там, дзе непрыемна. Правесці час з сябрамі нярэдка больш важна для вас, чым схадзіць на спатканне.

**РЫБЫ.** Вам вельмі важныя эмоцыі і перажыванні. Нярэдка настроенасць на вялікае каханне шмат што мяняе ў жыцці. Разам з тым недахопу ў брутальнасці дакладна няма. Атрымліваецца сумесь, якая можа стамляць і ў той жа час зачароўваць.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | 4 | 1 | 3 | | | |
| 1 | | 2 | | | 5 | 6 | | |
| 8 | | 7 | | | | | 3 | 5 |
| 9 | | | 7 | | 4 | | 6 | |
| 7 | | | | 5 | | | | 4 |
| 4 | | 1 | | | | 5 | | |
| | | | | | 7 | | 2 | 8 |
| 2 | 8 | | | | | | | 3 |
| | | 9 | | 2 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


● #РГ25

## Воля Трубач, кіраўніца этнаграфічнага клуба «Кола»:

# «Газета рухаецца сама і рухае вакол сябе»

– Мне, як арганізатару імпрэз, вельмі важна мець пляцоўку, на якой можна размяшчаць абвесткі пра будучыя мерапрыемствы.

«Рэгіянальная газета» заўсёды ідзе насустрач і спрыяе гэтаму. А часам і сама адсочвае падзеі этнаграфічнага клуба «Кола» і асвятляе іх. «Рэгіянальная газета» – гэта больш чым газета ці сайт пра падзеі рэгіёна. Гэта пляцоўка для адукацыйных семінараў, гарадскіх праектаў, акцый, грамадскіх абмеркаванняў і... эксперыментаў. «РГ» не стаіць на месцы: рухаецца сама і рухае вакол сябе! Прытым 25 гадоў! Віншую! Многае лета!

***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**



## Чытайце праз тыдзень:

- Гісторыя сям'і са Смаргоншчыны, дзе чужы чалавек стаў як родны. Пра тое, якія забавы былі ў дзяцей і як ладзілі тэатр ценяў.

## 14 сакавіка, субота

**Вецер:** паўночны, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -13,4°C у 2005 годзе
Максімальная тэмпература +11,6°C у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,3 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by.


## З «Рэгіянальнай газетай» і гарачай гарбатай прастуды не страшныя. Падпішыся!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*


● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Навошта і калі вы апошні раз хадзілі ў бібліятэку?

**Вераніка Лапко, кантралёр, Вілейка:**
– Часам хаджу ў бібліятэку, каб узяць кніжкі для дзіцяці.



**Людміла Янковіч, медсястра, Маладзечна:**
– Вельмі даўно, гадоў 15 таму, калі вучылася ў школе. Цяпер усё ёсць у інтэрнэце, а калі трэба кніжка, то іду ў кнігарню.



**Андрэй Лукша, будаўнік, Вілейка:**
– Не наведваўся ў бібліятэку, напэўна, з 1999 года. Усё, што мне цікава, я магу знайсці цяпер у інтэрнэце.



**Галіна Крупенчык, настаўніца, Маладзечна:**
– Хадзіла ў бібліятэку пазаўчора. Хаджу туды рэгулярна, бо люблю пачытаць кнігу для душы.



**Валянцін Шчуроўскі, працуе на чыгунцы, Краснае:**
– У бібліятэку не хаджу, бо ўсё ёсць у інтэрнэце. Ды і часу няма.



**Ірына Літвін, інспектар па кадрах, Маладзечна:**
– Хадзіла ў дзіцячую бібліятэку «Верасок» месяц таму. Бралі з сынам кнігі.



**Леанід Лебедзеў, пенсіянер, Гудагай:**
– Адзін раз у месяц хаджу, каб браць часопісы «Маладосць», «Полымя», «Нёман».

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




На 2-й старонцы гэтага нумара «РГ» ёсць артыкул пра маладзечанскую бібліятэку: чаму ў 2014 годзе яе зачынілі і калі яе ўвядуць у эксплуатацыю.


А таксама мы падрыхтавалі каментары першых чытачоў і архітэктара гэтай бібліятэкі.


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№11 (1298) 13.03.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 429. Падпісана ў друк у 9.00 12.03.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


© «Рэгіянальная газета», 2020


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.